Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 9 130.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Серада, 28 студзеня 1998 г. № 6 Кошт 2 000 руб.

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Кіраўнікі расійскіх СМІ сустрэліся з Лукашэнкам

**Учора прэзідэнт Лукашэнка прыняў гаспадароў расійскіх тэлекампаній ОРТ і НТВ Барыса Беразоўскага і Уладзіміра Гусінскага, якіх нядаўна публічна называў «жулікамі».**

На сустрэчы прысутнічалі таксама генеральны дырэктар ОРТ К.Панамарова і кіраўнікі іншых расійскіх СМІ. Па словах кіраўніка прэзідэнцкай прэс-службы Валерыя Талкачова, на сустрэчы абмяркоўвалася пытанне *«пра ўзаемадзеянне СМІ з мэтаю стварэння адзінай інфармацыйнай прасторы Беларусі і Расіі — у адпаведнасці з дамоўленасцямі, дасягнутымі 22 студзеня на паседжанні Вышэйшага савета Саюза Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь».*

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## З візітам у Белград

**Прэзідэнт Лукашэнка едзе з афіцыйным візітам у Саюзную Рэспубліку Югаславію.**

Паездка запланаваная на 28—30 студзеня. Падчас візіту мяркуецца падпісанне шэрагу дакументаў эканамічнага характара, якія, на думку беларускага ўрада, павінны «даць новы імпульс для развіцця супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Югаславіяй».

**Б.П.**

## Службовае павышэнне як плата за кампрамат

**Генадзь Карпенка судзіцца з рэдакцыяй «Народнай газеты» і журналістам Уладзімірам Зуевым. 26 студзеня ў судзе Савецкага раёна Мінска разгляд справы адкладзены.**

Намеснік старшыні Вярхоўнага Савета 13-га склікання Генадзь Карпенка звярнуўся ў суд у сувязі з публікацыяй у «Народнай газеце» артыкула «Пятае вымярэнне Генадзя Карпенкі». У гэтым артыкуле, лічыць Карпенка, змяшчаюцца звесткі, якія не адпавядаюць рэчаіснасці і няславяць яго гонар і годнасць.

Рэдактар народнай газеты Міхаіл Шыманскі не прадаставіў дакументы, якія затрабавала суддзя Ларыса Мяльгуй. У сувязі з гэтым суд вырашыў прадоўжыць слуханне справы 24 лютага. Дадаткова вырашана выклікаць у суд у якасці сведкаў намесніка старшыні Савета міністраў Уладзіміра Заметаліна і рэдактара «Народнай газеты» Міхаіла Шыманскага.

Аўтар публікацыі Зуеў сцвярджае, што пісаў артыкул на падставе матэрыялаў, якія яму даў Замяталін. Журналісты, якія прысутнічалі на судовым працэсе, пацікавіліся ў свайго калегі: як можна было пісаць матэрыял, не праверыўшы яго фактычны змест? Зуеў адказаў, што за гэты артыкул яму абяцана было службовае павышэнне — месца галоўнага рэдактара газеты «Знамя юности».

*БелаПАН*





*На здымках: Генадзь Карпенка, Уладзімір Замяталін.*

## Пасол ЗША наведае Гродна

**Паводле нашых звестак, амерыканскі пасол Дэніэл Спекхард збіраецца наведаць Гродна 3-4 лютага.**

Плануецца, што пасол сустрэнецца з кіраўніком аблвыканкама А.Дубко і мэрам горада А.Пашкевічам, а таксама са студэнтамі і выкладчыкамі ўніверсітэта імя Я.Купалы. Мяркуецца таксама, што Д.Спекхард будзе сустракацца з прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў і СМІ.

Магчыма, што амерыканскі дыпламат наведае яшчэ медінстытут, бізнесцэнтр, прыватную фірму і фермерскую гаспадарку ў Гродзенскім раёне. Разам з жонкай пасол пройдзецца па Гродне пешшу і агледзіць помнікі архітэктуры ў старым горадзе.

**С.А.**

# Кватэру не забяруць,

## але маёмасць могуць канфіскаваць

Людзі масава не плацяць за кватэру і камунальныя паслугі. Неплацяжы сталі сапраўднай эпідэміяй — і чыноўнікі нічога не могуць зрабіць. Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі і выканкамы баяцца прызнацца ў сваёй бездапаможнасці, таму хаваюць ад прэсы колькасць неплацельшчыкаў, а кабінетныя работнікі ламаюць галаву, як прымусіць грамадзян плаціць у тэрмін.

### Не выселяць, але маёмасць апішуць

Запазычанасць жыхароў толькі Мінскай вобласці (без сталіцы) у мінулым годзе склала амаль 6 мільярдаў 130 мільёнаў рублёў, своечасова не плацяць за кватэру 12% жыхароў. Жыллёва-эксплуатацыйныя службы даходзяць да таго, што пужаюць прымусовым высяленнем: такія папярэджанні атрымалі некаторыя мінчане і жыхары іншых гарадоў. Аднак, як нам паведамілі ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, **выселіць грамадзяна за даўгі па кватэрплаце ніхто не мае права**. Разам з тым трэба мець на ўвазе: **распрацоўваецца закон аб прымусовым перасяленні неплацельшчыкаў** з большай кватэры ў меншую.

Апошнім часам моцна прыбавілася працы натарыяльным канторам: яны завяраюць спецыяльныя дакументы ЖЭСаў аб спагнанні кватэрплаты з даўжнікоў. Толькі мінскія натарыусы ў мінулым годзе заверылі 12 тысяч 348 такіх папераў. Пасля натарыуса гэтыя дакументы трапляюць у суд — і судовыя выканаўцы пачынаюць спаганяць грошы. Напрыклад, у Фрунзенскім райсудзе Мінска паведамілі, што судовыя выканаўцы апісваюць маёмасць грамадзянаў і даюць 7 дзён на тое, каб разлічыцца па даўгах, а беспрацоўным рэкамендуецца працаўладкавацца. Калі кватэраздымшчыкі не знойдуць грошай — апісаная маёмасць паступае на продаж праз камісійную краму. Такія выпадкі ўжо здараліся.

### Можна скардзіцца

Даўгі па кватэрплаце ў некаторых грамадзянаў сягаюць 5—6 мільёнаў рублёў і больш. Зразумела, што ў чалавека, які не працуе або мае нізкі заробак, у лепшым выпадку ёсць грошы толькі на тое, каб так-сяк пракарміць сям'ю. Як патлумачылі ў гарадскім упраўленні юстыцыі, грамадзяне маюць права абскардзіць прэтэнзіі ЖЭСа і **ў судовым парадку даказаць, што яны неплацёжаздольныя**. Калі суд прызнае, што чалавек сапраўды не мае магчымасці сплаціць кватэрплату, то доўг можа пагашацца за кошт дзяржавы. Часам і самі судовыя выканаўцы складаюць акты пра немагчымасць спагнання грошай, бо не ў кожнай сям'і яны знаходзяць «прадметы раскошы», якія можна апісаць. Нярэдка ў хаце ёсць толькі чорнабелы тэлевізар, сапсаваная швейная машынка ці старое піяніна. Як патлумачылі юрысты ў Мінскім аблвыканкаме, практыка спагнання запазычанасці па кватэрплаце праз продаж маёмасці сябе не апраўдала, бо ў камісійных крамах гэтыя рэчы ніхто не хоча купляць.

Судовыя выканаўцы кажуць, што самыя пужлівыя пасля візіту «начальніка з суда» пачынаюць шукаць грошы для вяртання даўгоў. Адна мнагадзетная мінчанка нават напісала заяву аб адлічэнні на кватэрплату часткі грошай, якія яна атрымлівае ў якасці матэрыяльнай дапамогі на дзяцей, але такі шлях немагчымы: дапамогу маці павінны поўнасцю атрымліваць самі.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Беларускі футбол заграз



*Артыкул «Хто будзе гуляць у футбол заўтра?» чытайце на чацвёртай старонцы.*

## Каб урад не мучыўся

Прэзідэнт Лукашэнка запатрабаваў ад урада «жалезнай дзяржаўнай манаполіі» на вытворчасць і гандаль алкаголем і тытунём, а таксама павелічэння дзяржаўнай долі ў нафтавым і аўтамабільным бізнесе. *«Там круціцца катастрафічная колькасць сродкаў, а мы мучаемся ў пошуках грошай на розныя праграмы»*, — сказаў прэзідэнт на пашыраным паседжанні Савета міністраў.

*Інтэрфакс*

## Хартыя-97 павіншавала Гавела

**Васіль Быкаў і іншыя вядомыя людзі Беларусі ад імя Хартыі-97 павіншавалі Вацлава Гавела з перавыбраннем на пост прэзідэнта Чэшскай Рэспублікі.**

У віншавальным лісце, накіраваным Вацлаву Гавелу, падкрэсліваецца, што *«палітыка еўрапейскай Чэхіі — гэта жывы прыклад пераадолення таталітарнага мінулага і пабудовы цывілізаванай дзяржавы з развітай дэмакратыяй, заснаванай на павазе да правоў чалавека, еўрапейскіх культурных каштоўнасцях і традыцыях».*

**М.Г.**

## Пупейка папрасіў прытулку

**Вядомы беларускі бізнесмен Аляксандр Пупейка звярнуўся да польскіх уладаў з просьбай аб прадастаўленні яму прытулку ў Рэспубліцы Польшча.**

Як вядома, 21 студзеня Аляксандру Пупейку, затрыманаму праваахоўнымі органамі Польшчы па просьбе беларускага боку, была зменена мера стрымання — ён выпушчаны пад заклад і пёрсанальнае паручыцельства Халіны Бартноўскай-Дамброўскай — вядомай у Польшчы журналісткі і праваабаронцы. Заклад у памеры каля 30 тысяч долараў ЗША быў унесены бізнес-партнёрам Аляксандра Пупейкі.

**Б.П.**

## Мірнае войска таксама небяспечнае

**Па розных прычынах летась ва Узброеных сілах Беларусі загінулі 65 чалавек. З іх 7 былі забітыя, 21 — скончылі жыццё самагубствам.**

Паводле дадзеных Беларускай ваеннай пракуратуры, у 1997 годзе ў арміі было ўчынена 776 злачынстваў, асабліва ўздым злачыннасці адзначаны ў Пагранічных войсках Беларусі, павялічылася колькасць нестатутных адносінаў і фактаў рукапрыкладства. Амаль у паўтара раза ўзрасла колькасць крымінальных злачынстваў в унутраных войсках, былі адзначаныя факты згвалтаванняў і хабарніцтва, чаго раней не было.

## Не едзь праз Казловічы

**Дзяржаўны камітэт Пагранічных войскаў паведамляе, што на памежным пераходзе «Казловічы» праводзіцца рэканструкцыя.**

У сувязі з рамонтнымі работамі прапускная здольнасць пераходу абмежаваная. Памежнікі рэкамендуюць вадзіцелям транспарту, перш за ўсё грузавога, карыстацца пунктамі пропуску «Бераставіца» і «Брузгі» ў Гродзенскай вобласці, праз якія без доўгіх чэргаў можна перасячы дзяржаўную мяжу Беларусі.

*БелаПАН*

**СВАБОДА** **Ужо сёння** **НАВІНЫ**

**ты можаш падпісацца на НАВІНЫ**

**Як і раней, газета выходзіць у аўторак, сераду, пятніцу. У аддзяленнях пошты і ў Белсаюздруку з 27 студзеня пачалася падпіска на 1-е паўгоддзе 1998 г.**

**Кошт за 1 месяц — 34 тыс. рублёў, 4 месяцы — 136 тыс. рублёў.**

**Падпісны індэкс 63312**

## Прадпрымальнікі арганізуюцца

**У Наваполацку сфарміраваны аргкамітэт па стварэнні прафсаюза прадпрымальнікаў.**

Мэта новага прафсаюза — абарона прыватнай ініцыятывы і эканамічных правоў грамадзян ад бюракраты. Старшынёй аргкамітэта абраны вядомы ў Наваполацку прадпрымальнік Валерый Шаўчэнка. У мінулыя выходныя каля 2 тысяч навапалацкіх прадпрымальнікаў правялі страйк пратэсту супраць новай методыкі падаткаабкладання, якія быў уведзены «заднім чыслом».

*БелаПАН*

## Усё лепшае – Івану

**Прыбраўшы ў Мінску да рук усё, што можна было, ведамства Івана Ціцянкова цяпер наводзіць свае парадкі і ў Гомелі.**

Ва ўласнасць галоўнага гаспадарчага ўпраўлення прэзідэнцкай адміністрацыі перадаецца шэраг прэстыжных будынкаў у цэнтры Гомеля. Сярод іх будынкі, якія займаюць пакуль праектныя арганізацыі «Гіпражыўмаш» і «Сельбудпраект», Цэнтр навуковатэхнічнай і дзелавой інфармацыі, а таксама Пріорбанк.

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

## Немцы вывучаюць актыўнасць беларусаў

**Сёння ў нямецкім горадзе Ізерлон каля Дортмунда адчыняецца канферэнцыя «Грамадзянская актыўнасць у Беларусі. Магчымасці недзяржаўных арганізацыяў».**

Ініцыятыва правядзення канферэнцыі, якая прадоўжыцца да 2 лютага, належыць Евангелічнай акадэміі зямлі Паўночны Рэйн — Вестфалія. Для ўдзелу ў гэтым форуме з Беларусі запрошаныя лідэры шэрагу грамадскіх арганізацыяў, рухаў і дабрачынных фондаў, а таксама дырэктар прэзідэнцкага дэпартамента гуманітарнай дапамогі Віктар Кучынскі.

*БелаПАН*

## Студэнт любіць есці ў прыватнай сталоўцы

**Студэнты вышэйшых навучальных установаў амаль цалкам падтрымліваюць ідэю прыватнага бізнесу.**

Пра гэта сведчаць вынікі анкетавання, якое праводзіў магілёўскі офіс Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК). Як засведчыла кіраўнік праекта Ірына Толкіна, усе апытаныя падтрымалі прыватызацыю аб'ектаў гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання, прычым 2/3 рэспандэнтаў прызналі, што ўжо прыватызаваныя прадпрыемствы працуюць лепш.

МФК некалькі апошніх гадоў вельмі актыўна садзейнічае прыватызацыі камунальнай маёмасці па ўсёй Беларусі. Амаль 8 мільярдаў рублёў далі магілёўскаму бюджэту аўкцыёны, што ладзіла кампанія ў 1997 годзе.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

## Чалавек года з Горак

**Аляксандр Цыганоў, рэктар Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, названы «міжнародным чалавекам года».**

Гэтае званне доктару навук, прафесару А.Цыганову надаў Кембрыджскі ўніверсітэт.

Іван ЗАСАДА



# Няпрошаныя госці з-пад Душанбэ

Адразу на некалькі соцень чалавек павялічылася армія мінскіх жабракоў. Апошняе папаўненне называе сябе «бежанцамі з Таджыкістана». Гэта недалёка ад праўды, але патрабуе пэўных каментароў.

Паводле сацыяльнага статуса гэтыя госці з усходу сапраўды вартыя нашых спачуванняў, падобныя пачуцці выклікае і іхні выгляд. Але ж па паводзінах хутчэй нагадваюць качавое племя, якое раптам прыйшло ў Беларусь — і гэтак жа раптоўна сыдзе. Таджыкскія бежанцы ў Мінску — гэта азіяцкія цыганы.

### «Дзеці Веры Харужай»

Як вядома з літаратуры, «дзеці лейтэнанта Шміта» вылучаліся палітычнай інфармаванасцю і схільнасцю да авантураў. З той калекцыі і цяпер чэрпаюць сучасныя камбінатары. Ад нашчадкаў Шміта «дзеці Веры Харужай» (назва нарадзілася невыпадкова — менавіта на гэтай вуліцы размяшчаецца асноўны кантынгент мінскіх таджыкаў) адрозніваюцца па многіх паказчыках.

Па-першае, гэта сапраўды дзеці: сярэдні ўзрост жабракоў 10—12 гадоў, пры адным дарослым — па 3—5 малых. Па-другое, па вялікім рахунку, дзеці нічога не выдумляюць: іхняя «легенды» мала адрозніваюцца ад праўды. Іхняя гісторыя пабудаваная на гістарычным факце — падзеях грамадзянскай вайны ў Таджыкістане.

«Дык вы з Курган-Цюбэ?» — прызнаўшы ў чарнява-кучаравых жабраках таджыкаў, лезуць тоўстыя беларускія цёткі ў свае торбы, каб дастаць з кашалька намачаныя паперкі з зубром на адным баку і Пагоняй — на другім. Убачыўшы грошы, дзеці пачынаюць замест «Вайна... Худайбердыеў...» цягнуць жалобна: «На питание немножко помогите...» Цёткі зусім губляюцца і пасля пацёртых «зуброў» працягваюць купюры з Траецкім прадмесцем. А побач з адным дзіцем — стаіць ужо дзесяць. Усе апранутыя, быццам пазнаходзілі адзежу на сметніку, худыя, маленькія, кволыя.

### Мінск па-таджыкску

Жанчына, якая сядзіць на прыступках у пераходзе пад вуліцай Веры Харужай каля Камароўскага рынку, назвалася Наташай. Яе таджыкскае імя я так і не пачуў, хоць пытаўся двойчы. Другая мая суразмоўца назвалася і па-таджыкску — Сабахат. А яшчэ адна, якая «працуе» каля метро «Акадэмія навук», прадставілася Розай. «Гэта па-таджыкску?» — «Так, па-таджыкску», — адказала Роза.

Але вернемся да Наташы. «Таджыкістан... Кахазабадскі раён... Калгас Леніна... Участак Максіма Горкага». Трэба разумець, што на гэтым самым «горкім» участку і жыла раней «таджычка Наташа». Пасля ішоў «кароткі курс» грамадзянскай вайны: «Вайна... Рахмонаў... Апазіцыя... Худайбердыеў...» На пытанні — дзе жыве, колькі зарабляе жабрацтвам, як трапіла ў Беларусь, — Наташа адмоўчвалася. Яе дзесяцігадовая дачка Фаціма была больш гаваркая. «Сцяпянка жывём, Сцяпянка», — трашчэла дзяўчынка. Прытуліў іх, аказваецца, нейкі стары чалавек, які, па словах Фацімы, «каждый день водка пьет». Таджыкскія кватаранты плацяць яму кожны дзень па дзесяць тысяч з чалавека — ды яшчэ прыносяць хлеб і харчы, якія здолеюць здабыць на Камароўцы.

Прыкладна ў тым жа становішчы сям'я другой жабрачкі, Сабахат, якая кажа, што прыжылася таксама ў Сцяпянцы. У гэтым пасёлку на ўскраіне Мінска з пасляваенных часоў і дагэтуль селяцца цыганы — малдаўскія, днепрапятроўскія, краснадарскія. Але ў мяне ёсць падазрэнне, што Сцяпянку таджыкі называюць для прыкрыцця. Няма дурных казаць шчыра, што жыве Сабахат у палатачным лагеры побач з чыгуначнай станцыяй Азярышчы пад Мінскам — бо ўжо вельмі падобны гэты лагер на звычайны табар. Але паслухаем далей. Хлопчык Барутцін, сын Сабахат, кажа, што яны плацяць гаспадару 20 тысяч у дзень. Прыкладна па дваццаць тысяч зарабляе дзіця, жанчыне з немаўляткам на руках даюць болей.

30-гадовая Марыям прыехала ў Мінск з Ніжняга Ноўгарада. Яна цяжарная ўжо сем месяцаў, але без боязі сядае на халодныя прыступкі падземнага пераходу. Ды яшчэ расшпіляе каляровы халат — каб лепш быў відаць вялікі жывот пад шэрым світэрам. Мар'ям ахвотна ўступае ў размову, але мову ведае зусім кепска. «Ці праўда, што вы — таджыкскія цыганы?» — проста пытаюся я. «Угы», — няпэўна адказвае яе дачка і пачынае балбатаць на невядомай мне гартаннай мове, заводзячы пры гэтым вочы ўгору, быццам моліцца.

«Дзе ваш муж? Бацька вашых дзяцей тут, у Мінску?» — пытаюся ў Мар'ям. Бежанка робіць някласны твар і расказвае, як цяжка ёй без мужа гадаваць траіх дзяцей. А некаторым яе суплямённіцам пашанцавала больш — у Мінск яны прыехалі з мужамі, старэйшымі братамі або хаця б бацькамі. Усе мужыкі, хто ўцалеў у таджыкскай вайне, працуюць: «Хто грузчыкам на Камароўцы, хто збівае скрынкі ў крамах, хто капае гароды гаспадарам у Сцяпянцы», — кажа Мар'ям.

### Нас усіх падманваюць?

Расказы пра «мужа, які працуе грузчыкам на Камароўцы», гучаць, быццам прыпеў у песні. Іду на Камароўку. «Якія таджыкі? Вы што?» — падымае мяне на смех Вольга — работніца склада, дзе захоўваецца гародніна. Як сцвярджае Вольга, таджыкаў-грузчыкаў не існуе, як і грузчыкаў-азербайджанцаў ці татараў. На ўсіх складах Камароўкі засталося пару грузчыкаў, а астатніх, каза Вольга, звольнілі: «Прадпрымальнікі грузяць свой тавар самі — ніякія таджыкі ім непатрэбныя».

«Таджыкскія бежанцы на сёння ў Беларусі не зарэгістраваныя, і ніхто з іх афіцыйна да нас не звяртаўся», — афіцыйным тонам гаворыць кіраўнік упраўлення па справах бежанцаў Дзяржкамітэта па міграцыі Людміла Серыкава. Жабракоў у халатах, што з'явіліся ў Мінску, яна адназначна лічыць «цыганскімі сем'ямі, якія да вайны вандравалі па Таджыкістане, а цяпер проста змянілі месца вандроўкі, але зусім не характар сваёй сацыяльнай дзейнасці». Па інфармацыі ўпраўлення міграцыі, усе, хто называе сябе бежанцамі з Таджыкістана, нелегальна прыехалі ў Беларусь з Расіі, дзе пражылі ўжо хто год, а хто болей. «Калі яны лічаць сябе бежанцамі, чаму не атрымалі гэты статус у Расіі? У нас гэта зрабіць ім не ўдасца», — заяўляе Людміла Серыкава.




*Улетку бежанцам з Таджыкістана было прасцей: мароз не хапаў за босыя ногі, а за доўгі дзень можна было нажабраваць большую суму. Але і ўзімку яны жывуць з людскай спагады.*

### Тупік

Рэч у тым, што паводле Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бежанцах», які быў прыняты ў 1995 годзе, на афіцыйны прытулак у нашай краіне можа разлічваць толькі той, для каго Беларусь стала першай краінай пражывання пасля ўцёкаў з радзімы. Калі ж іншаземец прыбыў з тэрыторыі трэцяй дзяржавы, дзе ён не падвяргаўся пераследу і мог ва ўстаноўленым парадку атрымаць прытулак або статус бежанца, то атрымаць гэты статус у нашай краіне ён не можа. Так запісана ў артыкуле 7 закона «Аб бежанцах».

Між тым, па ўсім відаць, што «таджыкскія бежанцы», або «таджыкскія цыганы» (каму што больш падабаецца), атрымаць гэты статус і не імкнуцца. Напачатку было прыкладна 500 гэтых гасцей (такую лічбу называлі адразу некалькі афіцыйных крыніцаў). Згодна з тымі ж назіраннямі, засталіся ў Мінску каля дзвюх соцень. Астатнія пасля аператыўных дзеянняў міліцыі з Мінска з'ехалі.

Замацаваліся толькі самыя неразборлівыя, якія задаволіліся прыступкай вулічных жабракоў. З мінскай міліцыяй яны пакуль асабліва не канфліктуюць: па словах сяржантаў міліцыі Уладзіміра і Анатоля, якія патрулююць раён Камароўкі, таджыкскія дзеці крадзяжом займаюцца рэдка: «ім хапае таго, што падаюць». Аднак калі яны падрастуць, хутчэй за ўсё стануць на шлях злачыннасці, сцвярджаюць міліцыянты. Ужо ёсць выпадкі, калі пад выглядам дзяцей-жабракоў у кватэры мінчанаў імкнуліся праўраца дарослыя зладзеі. Рана ці позна гэтыя «настаўнікі» навучаць малых рабаваць, і тады таджыкская мафія стане фактарам крымінальнай сітуацыі. Па прагнозах спецыялістаў, выходцы з Таджыкістана, калі застануцца ў Мінску, зоймуцца наркабізнесам — тым, чым займаюцца многія мінскія цыганы.

### Пакуль што

А пакуль дзесяцігадовы Цімур зарабляе на жыццё вельмі няхітрым, але цалкам законным спосабам. Ён падыходзіць да прахожых з працягнутай рукой і паказвае закручаную ў поліэтылен паперку, на якой надрукавана на машынцы: «Эти люди в связи с войной в Таджикистане покинули свой дом и нуждаются в помощи. Ограбили домашнее имущество. Уничтожили скот и сожгли дома. Кроме этого, они воспитывают 10 детей без родителей и ищут своих родственников. Просим оказать помощь кто чем может. Дай Бог вам здоровья и счастья».

Цімуру можна не верыць, называць яго таджыкам альбо цыганом ці нават эскімосам — але ад гэтага яму не стане цяплей на марозе. Нават калі ў яговых жылах цячэ самая гарачая кроў, яму ўсё роўна патрэбнае цяпло. «Мы жылі ў гарах, калі з'явіліся танкі і разбамбілі нашыя дамы. Майго тату яны забралі з сабой, бо ён не хацеў ваяваць, а маці паехала ў Душанбэ шукаць тату і дагэтуль не вярнулася», — расказвае Цімур.

Бог яму суддзя, калі ён хлусіць.

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

# Национальный колорит самого ближнего зарубежья

**Александр СТАРИКЕВИЧ**



О любви украинцев к пиву и нелюбви к москалям давно слагают легенды и анекдоты. Убедиться в первом я смог на киевском железнодорожном вокзале. В витрине одного из киосков, торгующих всякой всячиной, стояла табличка с надписью «Холоднесенький пивасик!» Так ласково называть «жигулевское» при двадцатиградусном морозе могут только фанатичные поклонники этого напитка.

Что касается якобы недоброжелательного отношения украинцев к восточным соседям, то это не более чем миф. Украине присущи антисоветские, но не антирусские настроения. К гостям из России здесь относятся вполне приветливо. Исключение составляет «завоеватель Севастополя» Юрий Лужков, которого действительно воспринимают с неприязнью.

## Хоровод протеста

Неповторимый национальный колорит придает некое очарование даже украинской политике. В день приезда я стал свидетелем замечательных народных гуляний: на одной из площадей молодые люди, взявшись за руки, ходили вокруг новогодних елок под известную мелодию «Мурки». Основным их лозунгом был «Громада» — голос ада». Привлекал внимание и на редкость вежливый плакат: «Тетя Юля, дядя Паша, извините, вы не наши».

Как выяснилось, это была акция, которую проводила пропрезидентская народно-демократическая партия. Хоровод был своеобразным отголоском войны между главой Украины Леонидом Кучмой и экс-премьером, а ныне руководителем партии «Громада» Павлом Лазаренко (он же «дядя Паша»). Первой жертвой конфликта едва не пала «тетя Юля» — соратница последнего руководителя теневого кабинета Юлия Тимошенко. Ей припомнили случившееся два года назад задержание в аэропорту с 22 тысячами долларов, которые не были внесены в таможенную декларацию. Теперь с Ю.Тимошенко будет разбираться прокуратура.

## Дядя Лёня против дяди Паши

Вообще конфликт между Кучмой и Лазаренко начался с визита украинского президента в США, куда он отправился «налаживать связи», в том числе и попросить очередных кредитов. Но американцы денег не дали, сославшись на совершенно недопустимый уровень коррупции в Киеве и конкретно указав пальцем на некоторых очень высокопоставленных чиновников. После возвращения Кучма побеседовал с тогда еще премьер-министром Лазаренко, в результате чего состояние здоровья «дяди Паши» резко ухудшилось и он ушел в отставку. Покинув государственную службу, Лазаренко подозрительно быстро выздоровел и стал одним из наиболее агрессивных лидеров оппозиции.

Такое поведение бывшего главы правительства сильно покоробило Кучму и его сторонников. Они явно полагали, что Лазаренко будет им по гроб жизни благодарен, поскольку его всего лишь уволили, а не посадили. Нынешний премьер-министр Валерий Пустовойтенко в отместку рассказал, что, разбирая бумаги, оставшиеся от предшественника, обнаружил интересную тетрадку. В ней Лазаренко якобы ежедневно аккуратно записывал, что он сделал для страны и что — для себя лично. Ответом стал скандал: сторонники Лазаренко показали, что нынешнее правительство практикует нецелевое использование средств резервного фонда.

Перебранка между вчерашними союзниками местами переходит в акции диверсионного характера. Однажды утром с улиц Киева исчезли все рекламные щиты «Громады». Попутно пострадала также наглядная агитация Украинского Народного Руха, члены которого считают себя штыками нынешней власти, хотя и находятся в экономической оппозиции к ней. «Громада» обвинила киевского мэра Александра Омельченко, которого она считает ответственным за эту провокацию, и потребовала возбудить по данному факту уголовное дело. «Руховцы», на щитах которых самыми крупными буквами написан лозунг «Бандитам — тюрьмы», предположили, что Омельченко воспринял его на свой счет.

## Госбезопасность предупреждает

Разумеется, недостатка во взаимных обвинениях у политических оппонентов не существует. Тот же Лазаренко пообещал в ближайшее время обвинить в коррупции десятки высокопоставленных чиновников — да так, что десять чемоданов Руцкого будут вспоминать, как детскую сказку. Предвыборная война «компроматов» (парламентские выборы намечены на 29 марта) идет полным ходом. Председатель Службы безопасности Украины Владимир Радченко с мрачноватым чекистским юмором предположил, что закончится она для ее участников «братской могилой».

Но политики по-прежнему организуют, а газеты печатают скандальные публикации. Причем Кучме приходится хуже всех, поскольку нападки на него идут сразу с нескольких сторон и зачастую приобретают просто оскорбительный характер. На первой полосе одного из номеров «Всеукраинских ведомостей» изображен петух, которого зовут Леонид Данилович. Текст соответствующей статьи начинается так: *«Не любят во дворе Леонида Даниловича!.. Да и как его любить? То на людей ни с того, ни с сего бросается, то орет как недорезанный. А еще гадит много...»* В вину Л.Д. ставится также то, что он плохо топчет кур. Ну и так далее примерно в том же стиле.

Если бы что-то подобное появилось в белорусской печати об Александре Григорьевиче — в тот же день журналисты хлебали бы баланду в СИЗО на «Володарке». Но в стране Кучмы степень гражданских свобод существенно выше, чем в Беларуси. Не случайно, говорят киевляне, даже часть зубров из Беловежской пущи, не вынеся режима Лукашенко, сбежала в Украину.

## Просто криминал

Хватает и обычного криминала. Особенно часто стреляют в Одессе. Недавно прогремел взрыв даже в больнице Ялты. Взрывное устройство, сработанное из тротила, винтов, гаек и прочих подсобных материалов, адресовалось члену местной преступной группировки, с которым в одной палате почему-то лежал полковник милиции.

Сейчас внимание общественности привлекает расследование пожара на сторожевом корабле «Славутич». Сгорели почему-то исключительно продукты. Первоначально выдвигалась версия, согласно которой во всем виноваты крысы, которые сожрали кабель электропроводки, вызвав тем самым короткое замыкание. Но во вредительские замашки грызунов, которые что не съели — то надкусили, верят не все.

## Украинские дивчины – это сила

Говоря об Украине, нельзя обойти тему прекрасной половины человечества, которой эта местность славилась всегда. Именно здешние красавицы стали главным побудительным мотивом возвращения на Родину Степана Бандеры, внука того самого Степана Бандеры. До сих пор он жил за океаном, где работал журналистом, но считает, что по сравнению с Украиной «в Канаде так тоскливо, что просто ужас».

Если для российского телезрителя девушки, демонстрирующие себя на фоне прогноза погоды, как правило, остаются прекрасными незнакомками, то киевскую звезду метеожанра Руслану Писанку знают все от мала до велика. Правда, габариты нового украинского секс-символа далеки от классических 90—60—90, но ведь и Киев — не Голливуд какой, прости Господи. Появилась Руслана на телеэкране, когда в телевизионном агентстве «Вікна» в порядке журналистского стеба решили противопоставить стройным метеорологиням женщину «классического славянского типа», ассоциирующуюся с матрешкой. Идея попала в масть. Оказалось, что обывателям надоели фигуры манекенщиц, и хочется чего-то близкого и родного. С тех пор Руслана, которая своим профилем легко закрывает карту Европы, не сходит с голубого экрана и газетных страниц, а конкуренткам остается только спалить дотла все рекомендации диетологов.

Другая украинская знаменитость певица Ирина Билык недавно поведала все тем же «Всеукраинским ведомостям» о подробностях своих отношений с Биллом Клинтоном. «Мы обнимались не только руками, но глазами и лицами», — рассказала она. По информации из Белого дома, президент США, которому, видимо, недостаточно скандала с Полой Джонс, до сих пор вспоминает Блонди Билык.

Более прагматичной оказалась опытная София Ротару. Памятник архитектуры XX века под названием «Ванное заведение Роффе» общей площадью под 500 квадратных метров, расположенный на набережной Ялты, она купила за 1.632 гривны (чуть меньше одной тысячи долларов). Крымский прокурор Владимир Шуба, рассказавший об этом факте на пресс-конференции, считает, что стоимость здания была занижена в 220 раз. Кроме того, Ротару получила государственный акт на пользование земельным участком, прилегающим к морю. А после всего этого певица вступила в избирательное объединение «Союз», ратующее за воссоздание СССР. Чем ей плохо живется в независимой Украине, непонятно.

## Союза не будет

И Ротару, и всем остальным нужно привыкать к мысли, что в обозримом будущем все останется по-прежнему. Несмотря на все сложности, Украина (прежде всего местный истеблишмент) ощутила настоящий вкус самостоятельности. И кто бы ни пришел к власти на ближайших парламентских, а потом и президентских выборах, государственный *status quo* будет сохранен. Для Беларуси (как и для России) Украина останется ближним, но зарубежьем.

А вот уж насколько ближним — во многом зависит от наших политиков.

# Хай Куба адкрыецца свету, а свет – Кубе

Візіт Папы Рымскага Яна Паўла II на Кубу стаў адной з самых значных сусветных падзеяў мінулага тыдня.

На працягу пяці дзён святы айцец адслужыў чатыры літургіі ў кубінскіх гарадах. У апошнім сталічным набажэнстве на плошчы Рэвалюцыі, дзе да гэтага часу праходзілі толькі афіцыйныя мерапрыемствы камуністычнага рэжыму Фідэля Кастра, бралі ўдзел мільён чалавек.

Калі галава каталіцкага касцёла яшчэ толькі збіраўся ў адзіную у Лацінскай Амерыцы сацыялістычную краіну, думкі назіральнікаў рэзка падзяліліся. Адныя сцвярджалі, што візіт 77-гадовага рымскага пантыфіка на Кубу паўплывае на дэмакратызацыю кубінскага рэжыму — што ні кажы, у 1959 г. атэізм стаў дзяржаўнай ідэалогіяй, а многіх святароў разам з цяперашнім кубінскім кардыналам Хаймэ Артэгам рэвалюцыянеры-марксісты адправілі ў канцлагеры вырошчваць цукровы трыснёг. З другога боку, некаторыя прытрымліваліся думкі, што 71-гадовы кубінскі дыктатар выкарыстае візіт Папы дзеля ўмацавання сваіх пазіцыяў як унутры краіны, так і на міжнароднай арэне. У прыватнасці, Кастра спадзяецца, што дзякуючы аўтарытэту Яна Паўла II удасца прарваць эканамічную блакаду Кубы Злучанымі Штатамі. Тым больш, што рымскі першасвятар не раз крытычна выказваўся адносна эканамічнага эмбарга, уведзенага супраць гэтай краіны. Кубінскія ўлады спадзяваліся таксама мець ад візіту Папы і эканамічныя выгады. Сотні тысяч турыстаў, якія прыехалі гэтымі днямі на Кубу, павінны былі пакінуць значную суму грошай у бедным бюджэце краіны. Таму не дзіўна, што ў гэты перыяд на Кубе значна ўзраслі кошты на паслугі гатэляў, таксі і на карыстанне сотавымі тэлефонамі.

Сустракаючы Папу ў аэрапорце Гаваны, камандантэ Фідэль застаўся верны сваім прынцыпам барацьбы з амерыканскім імперыялізмам. У сваёй прамове Кастра заявіў, што народ Кубы спрабуюць прынізіць голадам і хваробамі, а таксама задушыць эканамічна толькі таму, што ён адмаўляецца падпарадкоўвацца дыктату самай моцнай краіны свету. Галоўнай жа тэзай прывітальнай прамовы Папы сталі словы: *«Няхай Куба з усімі яе цудоўнымі магчымасцямі адкрыецца свету, а свет — Кубе».*

Увесь шлях папскага картэжу быў упрыгожаны дзяржаўнымі сцягамі Кубы і Ватыкана, а абразы з выявай Ісуса Хрыста перамяжоўваліся з партрэтамі Эрнэста Чэ Гевары і іншых лідэраў кубінскай рэвалюцыі. Папу паўсюль сустракалі вялікія натоўпы людзей, сотні тысяч чалавек прысутнічалі на ягоных набажэнствах у гарадах Санта-Клара і Камагуэй. Фідэль Кастра (у мінулым выпускнік езуіцкага каледжа) выступіў з заклікам да членаў кубінскай кампартыі і тамтэйшага камсамола прыняць удзел у папскіх набажэнствах і тым самым «выканаць свой патрыятычны абавязак перад радзімай».

У суботу Ян Павел II адслужыў святую імшу ў другім па велічыні горадзе вострава Сант'яга-дэ-Куба, дзе каранаваў фігуру Маці Божай Міласэрнай «Карыдаддэль-Кобрэ», якая лічыцца святой заступніцай гэтай краіны. Цікава, што ў гэтым саборы побач з цудатворнай фігурай Дзевы Марыі знаходзяцца нацельныя крыжы і медальёны Фідэля, Чэ Гевары, Каміла С'енфуэгаса і іншых лідэраў кубінскай рэвалюцыі.



*Камандантэ Фідэль змяніў вайсковы мундзір на цывільны гарнітур, але не пазбыўся звычкі павучаць. Нават Папу Рымскага.*

Падчас гэтага набажэнства, на якім прысутнічаў брат Фідэля Кастра Рауль, мясцовы біскуп Пэдра Кларэ Маўрыка выступіў з крытыкай камуністычнага рэжыму, які груба парушае правы і свабоды чалавека. Святы айцец асабіста звярнуўся да прэзідэнта з просьбай вызваліць палітычных вязняў, якія знаходзяцца ў кубінскіх турмах. Паводле дадзеных розных праваабарончых арганізацыяў, на Кубе цяпер налічваецца да 1.300 палітзняволеных. Некаторыя назіральнікі сцвярджаюць, што першая група дысідэнтаў у колькасці 30 чалавек можа быць вызваленая ў самы бліжэйшы час.

*«Святы Дух паслаў мяне, каб вязням прынесці свабоду»,* — такімі словамі пачаў Папа сваё апошняе падчас візіту набажэнства на гаванскай плошчы Рэвалюцыі. Гэтыя словы пантыфіка патанулі ў моры авацыяў мільённага натоўпу вернікаў. Упершыню за 39 гадоў над галоўнай кубінскай плошчай гучалі не шматгадзінныя прамовы камандантэ Фідэля і рэвалюцыйныя маршы, а словы папскай прапаведзі і *Ave Maria*. Пакідаючы востраў Свабоды, святы айцец звярнуўся да кіраўніка Кубы з заклікам ствараць такія ўмовы, каб кожны грамадзянін Кубы адчуваў сябе сапраўды свабодным.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

НАВІНЫ
28 студзеня 1998 г., № 6

КАДРЫ

## Доўгая вуда – вялікая рыба



## Нафтавы анёл затрубіў у Рэчыцы

**У гонар здабытай беларускімі нафтавікамі 100-мільённай тоны нафты ў Рэчыцы збіраюцца ўзвесці велізарны помнік.**

Манумент, які паводле задумы павінен будзе праслаўляць працоўны подзвіг здабытчыкаў чорнага золата, распрацаваны заслужаным мастаком Э.Агуновічам. Па задумцы аўтара, на зробленай з каменя і металу мапе будуць пазначаныя ўсе 23 беларускія радовішчы нафты. У сімвалічнай манеры будуць адлюстраваныя этапы развіцця беларускай нафтаздабычы. Давершыць кампазіцыю замацаваны на высозным шпілі залатакрылы анёл-флюгер, які з усяе сілы трубіць у фанфары.

Плануецца, што новая скульптурная славутасць Рэчыцы разам са старажытным гербам горада «Пагоня» стане сімвалам сталіцы беларускіх нафтавікоў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Абакралі царкву

**У вёсцы Урыцкае Гомельскага раёна невядомыя абрабавалі царкву.**

Злачынцы выбілі шыбу, распілавалі краты на акне і такім чынам трапілі ў бажніцу. Скрадзеныя тры абразы з выявамі Георгія Пабеданосца, Божай Маці і Ісуса Хрыста з анёламі, а таксама дзве рытуальныя скарбонкі для збору ахвяраванняў.

*БелаПАН*

## Салдат капаў сабе магілу

**Тры афіцэры вайсковай часткі, што знаходзіцца ў Асіповіцкім раёне Магілёўскай вобласці, асуджаныя і звольненыя з войска.**

Летам мінулага года адзін салдат загінуў, а другі цудам застаўся жывы, калі яны капалі траншэю. Траншэя не была як след умацаваная, у выніку адбыўся абвал, аднаго з салдат завалiла. Суд устанавіў віну афіцэраў, якія накіравалі салдат працаваць у небяспечных умовах і не выканалі правілаў бяспекі.

**Іван ЗАСАДА**

**СВАБОДА—НАВІНЫ
ў Internet:
http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/**

# Кто будет играть в футбол завтра?

Национальный футбольный чемпионат Беларуси разваливается. Из 16 клубов высшей лиги один приказал долго жить, другой существует только на бумаге, а еще несколько дышат на ладан.

### Полураспад

Первой иссякла минская «Атака», из которой вслед за ее главным тренером Яковом Шапиро сразу 25(!) футболистов перешли в борисовский БАТЭ, клуб-дебютант высшего дивизиона. Руководители могилёвских клубов «Днепр» и «Трансмаш» договорились о слиянии команд, в результате и образовался единый футбольный организм «Днепр-Трансмаш». В подвешенном состоянии находится футбольный клуб «Молодечно», который покинули главный тренер Игорь Белов и 10 игроков. Серьезные материальные трудности переживает гродненский «Нёман». А флагман белорусского футбола, шестикратный чемпион страны минское «Динамо», потерявшее главного тренера Анатолия Байдачного, переживает эпоху переходного периода, превращаясь из частного футбольного клуба фактически в государственное предприятие.

Все это никак не радует ни профессионалов спорта, ни любителей футбола. Такая вот картина полураспада белорусской футбольной элиты.

### Все на продажу

Кризисные явления в той или иной степени затронули семь клубов высшей лиги, т.е. почти половину. Причем четыре из них («Динамо», «Динамо-93», «Молодечно» и «Атака») юридически и финансово подконтрольны футбольному нуворишу Евгению Хвастовичу и его компаньонам.

Магистральное направление деятельности ЗАО «Динамо», которое возглавляет Хвастович, — продажа в клубы ближнего и дальнего зарубежья футболистов, составляющих костяк национальной сборной Беларуси. Вот Петр Качуро продан в английский «Шеффилд Юнайтед», Юрий Вергейчик — в бельгийский «Моленбек», Олег Путило — в голландский НЕК, Сергей Герасимец, Юрий Шуканов, Геннадий Лесун, Евгений Кашенцев, Владимир Тайков — в клубы Израиля, большая группа игроков — в ведущие российские и украинские команды. В результате два десятка игроков, цвет белорусского футбола, теперь появляются перед нашими болельщиками только несколько раз в году в форме национальной сборной.

Можно лишь предполагать, какой капитал заработало на этом бизнесе руководство ЗАО «Динамо». Сами же команды, за короткое время обескровленные оттоком классных футболистов, постепенно пришли в упадок. Не имевшее себе равных «Динамо» в сезоне 1996 года впервые уступило пальму первенства мозырскому МПКЦ, «Динамо-93» в прошлом чемпионате первый раз осталось без медалей, «Молодечно», крепкий середняк высшего дивизиона, лишь ценой титанических усилий как-то удержался на плаву.

В 1997 г. динамовская империя обнаружила признаки и экономического гниения. Футболисты и наставники главного «Динамо» несколько месяцев не получали премиальных (а это их основной доход), и только педагогическое мастерство и личностные качества главного тренера Анатолия Байдачного, приглашенного спасать деградирующую команду уже в ходе чемпионата, погасили пламя разгоравшегося бунта.

### Байдачный

Под руководством Байдачного «Динамо» вернуло чемпионский титул в ситуации, когда надежд на это почти не оставалось. Анатолий Байдачный сделал очень много, даже сумел договориться о совместных тренировках со знаменитым коллегой из киевского «Динамо» Валерием Лобановским. Поэтому поступившее перед самым новым годом известие о планах передачи команды под государственную юрисдикцию Байдачный воспринял, как удар в спину. Лобановский, узнав об этом, моментально отказался от сотрудничества. Почему? Потому что настоящие футбольные профессионалы Лобановский, Байдачный убеждены, что государственное руководство футболом обречено на провал. Эту же точку зрения поддержал на страницах спортивной прессы Сергей Боровский — недавний наставник национальной сборной, работающий ныне по контракту в Латвии. В итоге Байдачный принял предложение возглавить клуб российской высшей лиги — «Жемчужину» в Сочи. А минское «Динамо» пока тренирует Владимир Курнев, бывший помощник Байдачного.

### Криминал

Не успели закончиться переговоры Хвастовича с сотрудниками Совета безопасности о форме и технологии передачи «Динамо» под государственное начало, как разразился новый скандал.

Президент клуба «Атака» Леонид Панас вел переговоры с руководством борисовского БАТЭ о компенсации за переход в этот клуб 17-ти футболистов-контрактников. Стороны остановились на сумме примерно 40.000 долларов. Соответствующие документы были подписаны Леонидом Панасом и президентом БАТЭ Анатолием Капским в Белорусской федерации футбола (БФФ), причем борисовчане обязались заплатить до 20 января, то есть почти незамедлительно. Об этом Панас утром 15 января доложил компаньону Хвастовича Дмитрию Лещенко, так как именно ему принадлежит контрольный пакет акций ЗАО «Атакаспорт». Лещенко выразил свое недовольство мизерной, на его взгляд, суммой «откупных», а когда в тот же день Панас приехал с дочерью домой, его уже ждала группа мужчин-здоровяков. Они требовали, чтобы Панас подписал документ о лишении его распорядительных прав в клубе. Президент «Атаки», не выходя из машины, отказался. Тогда к автомобилю подошел сам Хвастович, обвинил Панаса, будто тот за взятку лишил его 2 миллионов долларов, и приказал своим помощникам вытащить Панаса из машины силой. Нападавшие при этом угрожали его убить.

Впоследствии Леонид Панас рассказал обо всем этом газете «Прессбол», а также заявил в милицию. Хвастович, в свою очередь, подал на Панаса иск за клевету. Такой вот футбол...

### Предположим...

Что же останется во владении Хвастовича? «Динамо» он, видимо, «сдаст» государству (в должной ситуации не худший выход). «Атака» еще числится на бумаге, но, скорее всего, прекратит свое существование. Разве что найдутся охотники купить «живое» место в высшей лиге. «Молодечно» боссы динамовского ЗАО спихнули городским властям, а те, в свою очередь, повесят клуб на какое-либо крупное предприятие. А вот «Динамо-93» после долгих раздумий они все же решили оставить при себе.

...А ведь еще недавно Евгений Хвастович баллотировался в президенты Белорусской федерации футбола, выступал с прожектами создания профессиональной футбольной лиги. Теперь же, высосав из белорусского футбола почти все соки, он пошел на попятную. После скандала с Панасом Хвастович улетел в Сочи договариваться о продаже очередной партии динамовцев, а может, и для того, чтобы подыскать себе теплое местечко в местной «Жемчужине».

### Почему?

Кризис в отечественном футболе, естественно, не случаен. Он порожден и отсутствием цивилизованной системы налогообложения, принятой в футбольных державах, и соответствующим состоянием национальной экономики. Но главное — национальным футболом до сих пор руководили непрофессионально и без четкого представления перспективы. Давно стало ясным, что Беларусь не в состоянии содержать боеспособную высшую лигу из 16-ти команд. Было очевидно, что требуется ее сократить до 12-ти, а то и, возможно, до 10-ти клубов, в которых были бы сконцентрированы материальные ресурсы и футбольные таланты. Тогда и уровень соперничества (а как следствие — и уровень нашего футбола) выросли бы неизмеримо. Куда проще стало бы бороться с «договорными» матчами, когда руководство заранее договаривается об исходе предстоящей игры.

Теперь же высшая лига сокращается сама по себе — объективно и логично. А ответственные работники БФФ, от которых зависит не все, но очень многое, прячутся от проблем, выбрав за лучшее страусиную политику. Сами не понимая, они приближают развал того, что еще стоит, но уже рушится.

**Борис ТАСМАН,**
*Фото Александра СТАДУБА*



*Острые атаки, кипящие страсти, мастерские передачи, эффектные голы — все это может остаться лишь в прошлом нашего футбола.*

***P.S. В Москве в розыгрыше Кубка чемпионов Содружества минское «Динамо» с разгромным счетом 1:8 проиграло московскому «Спартаку», а затем в ключевом матче группового турнира нанесло поражение армянскому «Еревану» — 2:0 и практически обеспечило себе выход в четвертьфинал турнира.***

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1144 Нумар падпісаны ў друк 27.01.98 (15:00) Наклад — 9.130